


Інфармацыйная культурна-грамадская газета Гарадоччыны

# ГАСЦІНЕЦ

№ 2 (155), СТУДЗЕНЬ 2013 ГОДА


**Цытата нумара:**

**Калі народ шмат ведае, то ім цяжка кіраваць.**

**Лао-цзы.**

МЕРКАВАННЕ РЭДАКТАРА

## ДАЛЕЙШАЕ АБМЕЖАВАННЕ ПРАЎ БЬЕ ПА ЛЮДЗЯХ

**Беларускі аўтарытарны рэжым на дваццатым годзе свайго існавання працягвае закручваць "гайкі".**

Першы месяц новага году адзначыўся паказальнымі працэсамі па абмежаванню праў актывістаў. Па тэлефоннаму праву былі прыцягнуты да адміністратыўнай адказнасці Анатоль Лябедзька за раздачу партыйнай газеты, гродзенскія актывісты "Вясны", Сяргей Малашэнак з Наваполацку за размяшчэнне ў інтэрнэце фотаздымкаў аб салідарнасці з палітвязнем Алесем Бяляцкім.

Відавочна, што рэжым узяў курс на пераслед публічнага іншадумства ў розных праяўленнях.

Анатоль Лябедзька 19 снежня каля Камароўскага рынка раздаваў інфармацыйныя матэрыялы аб пазіцыі партыі наконт прыватызацыі. Працэс раздачы матэрыялаў здымалі людзі ў цывільным, ніякіх заўваг ад міліцыянтаў ля Камароўкі не было. Але ужо перад новым годам Лябедзька атрымаў факс, што выклікаюць у міліцыю. У той час Анатоль быў хворы і аб гэтым паведаміў у пісьмовым адказе. Але 22 студзеня ён атрымаў па поште паведамленне, што аштрафаваны судом на 300 тысяч рублёў за удзел у несанкцыянаваным Мінгарвыканкамам пікетаванні. Зроблена гэта было завочна праз пазбаўлення магчымасці актывіста прывесці доказы ў сваю абарону.

10 снежня ў Сусветны дзень правоў чалавека гарадзенскія актывісты праваабарончага цэнтра "Вясна" Сазонаў, Юргель, Хільмановіч сфатаграфаваліся з партрэтамі Алеся Бяляцкага каля будынку суда і фотаздымкі выклалі ў інтэрнэт. За з'ўленне фотаздымкаў у інтэрнэце актывісты атрымалі па 500 тысяч рублёў шрафу за правядзенне несанкцыянавага Гарадзенскім гарвыканкамам пікетавання.

Наваполацкая суддзя Зоя Балаболава прысудзіла Сяргею Малашэнка штраф у 25 базавых велічынь ( 2 500 000 рублёў) за фатаграфаванне з партрэтам Бяляцкага каля будынку суда і міліцыі, палічыўшы што дзеля гэтага актывіст павінен быў атрымаць дазвол у Наваполацкага гарвыканкама.

Дэ-юрэ на Беларусі склалася сітуацыя, што рэжым стварыў псеўдаюрыдычную базу наконт таго, што для выказвання сваіх крытычных меркаванняў і любых мірных дзеяў іншадумцы павінны атрымаць дазвол у тых уладаў, якія яны крытыкуюць. Пры гэтым выканаўчая ўлада амаль ніколі не дазваляе праводзіць пікетаванне ці іншыя масавыя мерапрыемствы.

Гэтыя квазіюрыдычныя нормы супярэчаць палажэнням Канстытуцыі Беларусі, не адпавядаюць нормам міжнароднага права аб палітычных і грамадзянскіх правах.

Забеспячэння праў чалавека – гэта не ўнутраная справа рэжыма. Масавае парушэнне праў беларусаў на мірнае выказванне пратэсту супраць выбарных фальсіфікацый пад час апошняй прэзідэнскай кампаніі да гэтага часу спынілі ўсякае супрацоўніцтва краіны з Еўрапейскім саюзам, ЗША, прывялі да кропкавых эканамічных санкцый. Ігнараванне міжнародных нормаў свабоды слова, свабоды сходаў праз адміністратыўны пераслед грамадзян такса ма адмоўна сказваецца на рэпутацыі краіны, вядзе да далейшае ізаляцыі, абмежаванасці інвестыцый у эканоміку краіны.

Па сутнасці кіраўніцтва краіны само высякае сябе перад цывілізаваным светам праз пераслед іншадумцаў,ператварэнне апазіцыі ў дысідэнства. Але захоўваючы ўладу недэмакратычнымі сродкамі, рэжым пазбаўляе беларусаў годнай будучыні. Сёняшні рэжым адбірае годную будучыню ў сваіх сыноў і ўнукаў. І адказнасць за дэградацыю краіны, за адставанне ад цывілізаваных стандартаў жыцця ляжыць на ўсіх грамадзянах.

Пакуль у краіне будуць кіраваць някчэмнасці краіна ніколі не стане заможнай. Гэта паліталагічная аксіёма, якую не трэба ні даказваць, ні абвяргаць. Грамадзянам жа магчыма параіць быць прафесіяналамі ў сваёй справе, а не спадзявацца на дапамогу "сацыяльнай" дзяржавы. Быць прафесіяналамі, якія дзейнічаюць якасна і эфектыўна ў абраных сферах дзейнасці.

**Леанід Гаравы.**

ЗДАРЭННІ

## ЗАМЕСТ ПАПЯРЭДЖАННЯ ЧАКАЕ ВЯЛІКІ ШТРАФ

Гарадоцкія інспектары склалі два пратаколы на жыхара г.п. Шуміліна, які парушаючы правілы вядзення рыбалоўнай гаспадаркі і рыбалоўства, перамяшчаўся па зімоваму вадаёму на квадрацыкле і непадпарадкаваўся законным патрабаванням інспектара..

Паводле інфармацыі прэс-службы Дзяржінспекцыі 17 студзеня работнікі Гарадоцкай міжрайінспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету склалі адміністрацыйны пратакол на жыхара пасёлка Шуміліна, які рухаўся па лёдзе вадаёма на квадрацыкле. Імкнучыся пазбегнуць адказнасці за парушэнне, кіроўца праігнараваў патрабаванне інспектара пад'ехаць да берага і паспрабаваў схавацца. Інспектарам давялося звярнуцца да органаў правапарадку і мясцовай улады, каб высветліць і затрымаць правапарушальніка.

Першапачаткова парушальнік мог абмежавацца папярэджаннем за язду па вадаёме на механічным транспартным сродку, але цяпер яму пагражае штраф адразу за два парушэнні Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях.

Па-першае, парушальнік будзе несці адказнасць па ч. 2 арт. 15.35 за ўезд і перамяшчэнне па вадаёме, ўкрытага лёдам, на механічным транспартным сродку, што цягне адказнасць ад папярэджання да штрафу ў 20 базавых велічынь. Па-другое, за непадпарадкаванне законнаму патрабаванню службовай асобы пры выкананні ім службовых паўнамоцтваў жыхар Шуміліна будзе па арт. 23.4 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях пакараны штрафам ад 20 да 50 базавых велічынь. Фактычна, замест папярэджання правапарушальніка магчыма пакараць штрафам да сямі мільёнаў рублёў за выезд на вадаём і непадпарадкаванне патрабаванням інспектара.

**Т. Гаражанка.**

ЭКАЛАГІЧНАЯ ПРАБЛЕМА

## ПАЧНЕЦЦА ЛІКВІДАЦЫЯ ПАХАВАННЯ ЯДАХІМІКАТАЎ

**У адпаведнасці з абавязкамі Беларусі па рэалізацыі палажэнняў Стакгольмскай канвенцыі аб стойкіх арганічных забруджвальніках у 2013 годзе пачнецца ліквідацыя Гарадоцкага падземнага пахавання непрыдатных пестыцыдаў.**

Нацыянальным планам выканання абавязацельстваў, прынятых Рэспублікай Беларусь па рэалізацыі палажэнняў Стакгольмскай канвенцыі аб стойкіх арганічных забруджвальніках на 2011-2015 гады, на працягу двух бліжэйшых гадоў павінны быць праведзены работы па ліквідацыі Гарадоцкага падземнага пахавання непрыдатных пестыцыдаў. Арыентыровачна ў ім захоўваецца звыш 400 т сумесяў пестыцыдаў.

У бліжэйшы час будзе вызначаны парадак правядзення работ, адказных выканаўцаў, аб'екты часовага захоўвання пераупакаваных непрыдатных пестыцыдаў, адказных за бяспечнае захоўванне. Паводле папярэдніх разлікаў, на рэалізацыю гэтага праекта патрабуецца Br15 млрд. Ажыццяўляцца ліквідацыя пахавання будзе за кошт сродкаў Беларусі.

За два папярэднія гады ў краіне адбылася ліквідацыя самага буйнага пахавання ядахімікатаў – Слонімскага. Праца была ажыццёўлена ў межах праекта Глабальнага экалагічнага фонда, які быў прафінансаваны Сусветным банкам у памерах 5,5 млн. даляраў. Пры першапачатковай ацэнцы масы забруджвальнікаў у 882 тоны там было фактычна ліквідавана больш двух тысяч тон забруджанага рэчыва. Гэта рэчыва толькі часткова ў спецыяльных ёмкасцях было вывезена для знішчэння ў Нямеччыну. Але яшчэ каля тысячы тон засталіся ў ёмкасцях каля в. Мізгіры Слонімскага р-на, як нядаўна паведаміла "Радыё Свабода" http://www.svaboda.org/content/article/24885492.html

Гарадоцкае пахаванне ядахімікатаў размешчана каля в. Хмяльнік ў накірунку в. Астраўскія. Звесткі аб складзе пахаваных пестыцыдаў не захаваліся. Згодна з экалагічным пашпартам, складзеным былым Гарадоцім райаб'яднаннем «Сельгасхімія» у 1990 г. (праз 17 гадоў пасля заканчэння будаўніцтва), вядомы толькі агульная маса і клас небяспекі пахаваных ядахімікатаў. Агульная маса пахаваных ядахімікатаў ацэньваецца ў 411,4 т., у тым ліку па класах небяспекі: 1 клас - 43,628 т; 3 клас - 130,146 т; 4 клас - 237,695 т. Відаць, што пераважаюць маланебяспечныя пестыцыды - 58%. Удзельная вага высоканебяспечных складае 10%.

Наменклатуру пахаваных пестыцыдаў часткова можна ідэнтыфікаваць па выніках іх азначэнні ў экасістэмах навакольнага асяроддзя ў працэсе папярэдніх даследаванняў Віцебскай станцыі па насеннязнаўству, каранціну і ахове раслін і Рэспубліканскага унітарнага прадпрыемства "Цэнтральны навукова-даследчы інстытут комплекснага выкарыстання водных рэсурсаў». У працэсе аналізаў у глебах выяўлены ДДЕ, γ-ГХЦГ, дыазінон, сімазін і прометрын, а таксама дадаткова выяўлены α і β-ГХЦГ, гептахлор, мэтаксіхлор, ДДТ і ДДД. Яны ўяўляюць 3 буйных класа ядахімікатаў, якія адрозніваюцца па хімічным складзе, а менавіта: хларарганічныя, фосфаргаргічныя (дзіазінон) і сімазін-трыазінавыя.

Хутчэй за ўсё на Гарадоцкім пахаванні давядзецца ліквідаваць значна болей, чым 411,4 тоны ядахімікатаў, якія заяўлены першапачаткова. Пасля ліквідацыі Гарадоцкага пахавання ў краіне застанецца ліквідаваць Дрыбінскае, Пастаўскае і Верхнедзвінскае пахаванні, каб вырашыць праблему са стойкімі арганічнымі забруджвальнікамі.

**Л. Антонаў.**

ТРАНСПАРТ

## НОВЫЯ ТАРЫФЫ ТАКСОВАК

**З 16 студзеня мясцовыя таксоўшчыкі пачалі ўводзіць новыя кошты праезду на маршруце Гарадок-Віцебск-Гарадок, якія на 33% вышэй папярэдніх.**

Пасля таго, як 16 студзеня стала вядома, што кошты на паліва павысіліся на 5-7%, мясцовыя таксоўшчыкі вырашылі увесці свае кошты на праезд з Віцебску ў Гарадок і наадварот. Пасажыры, якія ехалі па маршруту Віцебск-Гарадок былі здзіўлены, калі пры разліку за праезд ім давялося плаціць не 15 тыс. руб. , а 20 000 руб. Таксоўшчыкі тлумачылі гэта проста: "Вы ж ведаеце, што з сёняшняга дня кошты на паліва выраслі?".

Але ж 16 студзеня кошты за літр дызпаліва склаў 8 000 руб пры ранейшым у 7 650 руб.. Праўда, салярка маркі "Арктыка" стала каштаваць 9 300 руб. пры ранейшым у 8 600 руб.. Гэта значыць кошты выраслі на 5-7%. Таму пасажыры былі здзіўлены, што кошт паедкі вырас адразу на пяць тысяч рублёў. Бо пры гэтым у грамадскім транспарце кошт праезду на маршрутке застаўся ранейшым у 12 350 рублёў, а на чыгуначным транспарце білет у Віцебск па ранейшаму каштуе 2050 рублёў.

З аднаго боку зразумела: не жадаеш столькі плаціць прыватніку – не едзь, але пасажырам не зразумела – з якімі структурамі павінны ўзгадняць кошты праезду прыватнікі? Бо відавочна, што павышэнне кошту на трэць не мае пад сабой ніякага эканамічнага абгрунтавання, акрамя жадання таксоўшчыкаў больш браць за праезд.

У гэтай сітуацыі відавочна будзе падаць попыт на гэтыя дарагія транспартныя паслугі, бо пасажыры будуць аддаваць перавагу іншым відам транспарту: дзяржаўнаму аўтатранспарту або чыгуначнаму. І час пакажа ці застанецца кошт праезду ў Віцебск на таксоўцы на мяжы 20 тысяч або будзе зменшаны да рэальнага ўзроўня.

**Л. Антонаў.**

*Аб'ява*

**Аператыўная інфармацыя аб падзеях Гарадоччыны, рэгіёна і больш, чым у газеце, зараз па-беларуску і па-расейску з'яўляецца на новым Інтэрнэт рэсурсе: http://haradok.info**
**Наша газета "Гасцінец" стала размяшчаецца на партале http://kamunikat.org , дзе зацікаўленыя грамадзяне могуць яе спампаваць са старонкі: http://kamunikat.org/hasciniec.html , што у каталагу "Пэрыёдыка" для далейшага выкарыстання.**
**Каб атрымліваць кожны нумар газеты «Гасцінец» паведаміце рэдакцыі аб гэтым – і вы яго атрымаеце. Калі ўжо не жадаеце атрымліваць выданне, то патэлефануйце у рэдакцыю.**
**Рэдакцыя шукае дабраахвотных распаўсюджвальнікаў газеты "Гасцінец", а таксама аўтараў публікацый. Магчыма узаемавыгаднае супрацоўніцтва. Звяртацца на тэлефон рэдакцыі.**

ЭКАНАМІЧНАЕ РАЗВІЦЦЁ

# ІНВЕСТЫЦЫЙНАЯ ПРАГРАМА ДЛЯ ГАРАДОЧЧЫНЫ

**У інвестыцыйнай праграме Віцебскай вобласці на 2013 год прадугледжана будаўніцтва, рэканструкцыя і праектаванне пяці аб'ектаў у Гарадоцкім раёне.**

Інвестыцыйная праграма на 2013 год зацверджана Віцебскім абласным саветам дэпутатаў і утрымлівае будаўніцтва, рэканструкцыю і праектаванне 141 аб'екта на Віцебшчыне.

Па гэтай праграме ў 2013 годзе на будаўніцтва, рэканструкцыю і праектаванне аб'ектаў камунальнай уласнасці інвестыцыйнай праграмай прадугледжана 681.792.344.000 рублёў з абласнога бюджэту. На жыллёва-камунальную гаспадарку і жыллёвае будаўніцтва выдзяляецца 376.866.803.000 рублёў, з іх 40 мільярдаў рублёў пойдзе на Дзяржаўную праграму па водазабеспячэнню і водаадвядзенню «Чыстая вада».

230.777.112.000 рублёў запланаваны ў праграме «на будаўніцтва вулічных размеркавальных газаправодаў, праектаванне, будаўніцтва (рэканструкцыю) аб'ектаў інжынернай і транспартнай інфраструктуры для раёнаў жылой забудовы, пагашэнне крэдытаў, выдадзеных у 2011 годзе на праектаванне, будаўніцтва (рэканструкцыю) аб'ектаў інжынернай і транспартнай інфраструктуры для раёнаў жылой забудовы і выплату працэнтаў за карыстанне крэдытамі на будаўніцтва вулічных размеркавальных газаправодаў і праектаванне, будаўніцтва (рэканструкцыю) аб'ектаў інжынернай і транспартнай інфраструктуры для раёнаў жылой забудовы ў 2011 - 2012 гадах ».

Па гэтай інвестыцыйнай праграме ў Віцебску запланаваны рэканструкцыя вуліцы Гагарына і пуцепровода «Полацкі», будаўніцтва маставога пераходу «Паўночны» праз Дзвіну, футбольны манеж; вучэбна-трэніровачная лядовая пляцоўка пры філіяле спартыўнай установы «Віцебскі хакейны клуб -« Віцебскі Палац спорту »; рэканструкцыя манежа з добраўпарадкаваннем прылеглай тэрыторыі УА« Віцебскае дзяржаўнае вучылішча алімпійскага рэзерву «; дзіцячая дашкольная ўстанова ў мікрараёне «Білева-2»; школа на 1020 вучняў у мікрараёне «Білева-2» і школа на 930 навучэнцаў у мікрараёне «Білева -1 »(2-я чарга будаўніцтва, плавальны басейн); комплекс будынкаў Віцебскага гарадскога аддзела па НЗ і пажарнага аварыйна-выратавальнага атрада «Віцязь»; паліклініка ў мікрараёне ПОЎДЗЕНЬ-7А; рэканструкцыя 3-х павярховага тэрапеўтычнага корпуса дзіцячай абласной клінічнай бальніцы па вуліцы Шрадэра, 7; мадэрнізацыя лячэбнага корпуса № 1 па праспекце Фрунзе, 73; рэканструкцыя корпуса № 2 УАЗ «Віцебскі абласны клінічны анкалагічны дыспансер» па вул. П.Броўкі, 33; расчыстка ручая Дунай з добраўпарадкаваннем прылеглай тэрыторыі і шэраг іншых аб'ектаў.

Для Гарадоцкага раёна запланавана рэалізацыя планаў па будаўніцтву дзесяцігоддзямі абяцаных аб'ектаў: «Фізкультурна-аздараўленчы комплекс" па вул. Гагарына, «Лыжа-ролерная траса ў Варабьёвых гарах".

Закладзена ў праграму таксама і «Рэканструкцыя аўтастанцыі ў г. Гарадок", але яе рэканструкцыя будзе ажыццяўляцца са сферы нацыянальнай эканомікі у памеры 1000 млн. рублёў.

Па інвестыцыйнай праграме таксама прадугледжана "Закальцоўка сетак водазабеспячэння ў мікрараёне вул. Гагарына з падключэннем да станцыі абезжалезвання", а таксама «Рэканструкцыя ачышчальных збудаванняў у н.п. Бычыха ».

Пры гэтым для усіх вышэй названых аб'ектаў, за выключэннем ачышчальных збудаванняў у Бычысе, патрабуюцца праектна-пошукавыя працы. І ў рэшцэ-рэшт куранят давядзецца лічыць па восені.

**Л. Антонаў.**

ТАКАЯ ГАЛОСНАСЦЬ

# Невядомыя рашэнні прадстаўнічай улады

**Гарадоцкі раённы Савет дэпутатаў не размяшчае свае рашэнні на афіцыйнай інтэрнэт-старонцы.**

Фармальнае існаванне прадстаўнічай улады базавага ўзроўня ў краіне дэманструецца станам камунікацыі гэтай улады з выбаршчыкамі ў інтэрнэт прасторы. Па-першае, райсаветы Віцебскай вобласці ды і сам Віцебскі аблсавет не маюць сваіх сайтаў у сусветнай павуціне. Прадстаўнічая ўлада ў раёнах трымаецца папялушкай на сайтах раённых выканаўчых камітэтаў. Па-другое, выбаршчыкі ў інтэрнэт-прасторы не маюць магчымасці азнаёміцца з рашэннямі, якія прымаюць дэпутаты базавага ўзроўня на сваіх сесіях. На інтэрнэт-старонках прысутнічаюць звычайна толькі спісы дэпутатаў раённага Савета, магчымыя графікі сустрэч дэпутатаў з выбаршчыкамі і яшчэ магчыма сустрэць Праграму сацыяльна-эканамічнага развіцця раёна на пяцігодку. І ўсё.

Такі стан камунікацыі з выбаршчыкамі характарызуе і дзейнасць Гарадоцкага райсавета. Калісьці распрацоўшчыкі сайта Гарадоцкага райвыканкама адвялі аж старонку для "Рашэнняў раённага Савета дэпутатаў". Але з 2007 году на гэтай старонцы так і не з'явілася ніводнага рашэння Гарадоцкага райсавета : gorodok.vitebsk-region.gov.by/ru/vlast/raisovet_dokum .

Гэта з'яўляецца яскравым сведчаннем адсталасці прадстаўнічай улады ад сучасных інфармацыйных тэхналогій, сведчаннем нежадання дэпутатаў працаваць адкрыта і галосна. Сапраўды, няма ніякага сэнсу дэпутатам, якія ў значнай меры складаюцца з чыноўнікаў таго ж райвыканкама, дзейнічаць адкрыта і галосна.

Падобнае становішча назіраецца на інтэрнэт старонках і іншых райсаветаў Віцебшчыны. Між тым рашэнняў на сесіях прымаецца шмат. Так Шумілінскі райсавет паведамляе, што за час існавання Савета 26 склікання было прынята ўжопа стану на 28 снежня 2012 году аж 157 рашэнняў. Праўда, размешчана з іх на старонцы гэтага райсавета толькі восемь у выглядзе розных праг развіцця Шуміліншчыны: ад развіцця малога і сярэдняга прадпрымальніцтва да Канцэпцыі развіцця вонкавай рэкламы.

І агульнай рысай усіх інтэрнэт-рэсурсаў выканаўчай і прадстаўнічай улады Віцебшчыны з'яўляецца тое, што амаль ўся інфармацыя падаецца на расейскай мове, адсутнічае беларускамоўная версія сайта кожнага райвыканкама, не кажучы пра сайты райсаветаў. Адсутнічае бызцам бы Беларусь калонія Расіі і не мае свайё дзяржаўнай беларускай мовы.

**Л. Антонаў.**

ЗДАРОВЫ ЛАД ЖЫЦЦЯ?

# ДАЛУЧЫЛІСЯ ДА СУСВЕТНАГА ДНЯ СНЕГУ

**20 студзеня адзначаецца Сусветны дзень снегу. Упершыню Беларусь масава далучылася да мерапрыемстваў Сусветнага дня снегу. Адзначылі сціпла яго і ў Гарадку.**

Ініцыятарам свята выступае Міжнародная федэрацыя лыжнага спорту (FIS). Яго мэтай у першую чаргу з'яўляецца павышэнне цікавасці да зімовых відах спорту, ўцягванне людзей у актыўны лад жыцця.

Каардынатарам правядзення ўсіх мерапрыемстваў, звязаных з Сусветным днём снегу ў нашай краіне з'яўляецца Беларускі лыжны саюз, які ўзначальвае Наталля Пяткевіч. Афіцыйны партнёр - Дзіцячы фонд ААН (ЮНІСЕФ). У ліку арганізатараў - Міністэрства спорту і турызму, упраўленні фізічнай культуры, спорту і турызму аблвыканкамаў, Мінскага гарвыканкама.

Больш за 40 краін Паўночнага паўшар'я арганізуюць у гэты дзень розныя снежныя забавы, лыжныя спаборніцтвы, якія павінны будуць прыцягнуць на снег дзяцей, моладзь і іх сем'і! Рэспубліка Беларусь далучылася да гэтага свята і ў выходныя 19-20 студзеня па краіне пройдуць масавыя святы снегу!

На Гарадоччыне арганізатарам мерапрыемства выступіў аддзел фізічнай культуры, спорту і турызму райвыканкама. Гарадоцкая раёнка паведаміла, што мерапрыемствы прысвечаныя Дню снега распачнуцца ў нядзелю з 10.00 ва ўрочышчы Варабьёвы горы, што знаходзяцца ў Гарадку.

Але ў гэты час нікога з спартсменаў на стартавай пляцоўцы ў месце правядзення стартаў не было. Толькі два аматары зімовай рыбалкі накіроўваліся на Шчарбакоўскае возера. Арганізатара мерапрыемства з'явіліся на ўрочышчы праз 15 хвілін, а ў 11.15 пару дзесяткаў лыжнікаў ужо фінішавалі. І праз дваццаць хвілін толькі церушыўшы снег нагадваў, што ў Варабьёвых гарах 20 студзеня свята Снегу.

На сайце Беларускага лыжнага саюза анансавалася, што ў Гарадку адбудзецца лыжная эстафета сярод дзяцей і падлеткаў, катанне на снегаходах, праца ціра, але арганізатары палічылі за лепшае правесці "масавыя" старты сярод дзяцей, мужчын і некалькіх жанчын.

15 градусны мароз вымусіў арганізатараў стартаў адмовіцца ад уручэння дыпломаў на месце стартаў і перанесці гэту працэдуру ў спартыўную школу.

Першыя старты Дня снегу ў Гарадку сталі пэўным камяком для мясцовых арганізатараў. Аб масавых стартах не было ніякіх аб'яў на інфармацыйных стэндах у Гарадку. Аб дакладным часе стартаў ведалі толькі арганізатары. Атмасферу свята ніштo не нагадвала: не было музычнага суправаджэння, ні масавасці, ні працы кропкі харчавання, ні заўсёды крыцця мерапрыемства і г.д.

**Л. Антонаў.**

СЕЛЬСКАЯ ГАСПАДАРКА

# Не выйшлі і на дваццаць цэнтнераў

Вынікі валавага збору і ўраджайнасці зерневых на Гарадоччыне значна менш, чым у рапартах з "бітвы" за ўраджай.

Нацыянальны статыстычны камітэт апублікаваў дадзеныя аб выніках развіцця сельскай гаспадаркі краіны за 2012 год. Гэтыя вынікі значна горшыя, чым прадстаўляюць абласныя чыноўнікі ў час барацьбы за ўраджай. Найбольш абагульненым паказчыкам развіцця сельскай гаспадаркі з'яўляецца удзельная вага вобласці ў агульнанацыянальным "каравае". І ў 2012 годзе Віцебская вобласць за студзень-кастрычнік здала свае пазіцыі сярод рэгіёнаў краіны. Калі ў 2011 годзе на Віцебшчыне было выраблена 15,8% ад агульнанацыянальнага "каравая" і было другое месца пасля Міншчыны, то за дзесяць месяцаў мінулага году ўнёсак склаў толькі 13,8% -- перадапошняе месца: горш справы толькі на Магілёўшчыне.

Адным з паказчыкаў ідэалагічнай барацьбы ў аграсектары з'яўляецца збор зерневых пра, які на працягу жніўня пастаянна нагадваюць дзяржаўныя СМІ. Але розніца паміж бункернай масай зерневых і масай пасля даапрацоўкі амаль на палову вышэй агульнапрынятых стандартаў. Дзяржаўныя СМІ рапартуюць пра вялікія валавыя аб'ёмы зерневых, якія потым трацяць амаль пятую частку сваёй вагі. Так на Віцебшчыне рапартавалі аб зборы 1 млн. 314 тысяч тон зерневых, а калі дагледзілі гэта зерне, то выйшла амаль на дзвесці тысяч тон менш – 1млн.133 тыс. тон.

Аналагічная сітуацыя і на Гарадоччыне, якая уваходзіць у апошнюю тройку раёнаў краіны па ўраджайнасці зерневых. Мясцовыя прапагандысты рапартавалі па восені аб зборы 43 тысяч тон зерневых, а пасля даапрацоўкі засталося толькі 35388 тон. Пры гэтым агучваемая ураджайнасць зерневых у 24,2 ц/га зменшылася да 19,9 ц/га. Меншая ураджайнасць у краіне толькі ў Браслаўскім і Расонскім раёнах.

Пры такім становішчы з зерневымі складана разлічваць на тое, што дажынкавы каравай 2014 году будзе ў рэальнасці важкім хаця бы сярод раёнаў Віцебшчыны.

**Л. Гаравы.**

СПАРТЫЎНЫЯ СТАРТЫ

# Зноў падвяла стральба

**На шостым этапе Кубка свету ў Антхольцы Настасся Дубарэзава няўдала правяла стральбу і не трапіла ў гонку праследавання. Другі раз у гэтым сезоне.**

Шосты этап Кубка свету ў італьянскім Антхольцы распачаўся 17 студзеня спрынтам у жанчын. Настасся Дубарэзава стартала ўпершыню адной з першых пад шостым нумарам на высокай хуткасці. Пры стральбе лёжа наша зямлячка паразіла ўсе мішэні і стала лідэрам гонкі да стральбы стоя. Але высокая хуткасць руху ва ўмовах сярэднегор'я выйшла для Дубарэзавай бокам. На стральбе стоя Настасся доўга не магла справіцца з дыханнем, а потым пакінула тры мішэні незакрытымі. Ды і далей ўжо наша зямлячка не магла так хутка бегчы. Вынікам спрынту стала толькі 69 месца і пазбаўленне магчымасці ўдзельнічаць у суботнім пасьюце.

Між тым зноў парадавала беларускіх балельшчыкаў Дар'я Домрачава, якая зноў паднялася на трэццяе месца ў спрынце, дапусціўшы адзін промах. Хутчэй Домрачавай спрынт прайшла фінка Макарайнен – другое месца і Настасся Кузьміна са Славакіі, якая перамагла ўпершыню за многія старты. Лідэр сезону Тора Бергер дапусціла тры промахі і заняла толькі дванаццатае месца. Самую горшаю стральбу са 102 удзельніц спрынту паказала Мірыям Гёснер – другое месца ў агульным заліку Кубка свету. Пры сямі промахах яна таксама апынулася за межамі удзельніц суботняга пасьюта – толькі 62 месца.

Добрыя вынікі паказалі дзве другія беларускія ўдзельніцы: Надзея Скардзіна – 22 месца, Людміла Калінчык – 32, якія атрымалі права ўдзельнічаць у гонцы праследавання і ачкі ў агульны залік Кубка свету.

Настасся Дубарэзава магла б сябе рэабіліціраваць у эстафеце, якая адбылася ў нядзелю. Але на сваім этапе Настася зноў дапусціла промах, выкарыстаўшы пры гэтым тры дадатковыя стрэлы. Гэта зноў быў горшы вынік сярод беларускай жаночай чацвёркі. Застаецца спадзявацца, што праз тры тыдні да чэмпіяната свету Дубарэзава падыйдзе з лепшым патэнцыялам.

У агульным жа заліку Кубка свету на першым месцы па ранейшаму Тора Бергер, а Дар'я Домрачава паднялася на другое месца, адцясніўшы Мірыям Гёснер. Пасля стартаў у Антхольцы біятланісты ўжо сустрэнуцца толькі на чэмпіянаце свету ў чэшскім Новы Мясце, дзе старты распачнуцца 7 лютага смешанай эстафетай.

**Л. Антонаў.**

ГАЛОЎНАЯ ПАДЗЕЯ

# ПАМЯЦІ МІХАСЯ ЧАРНЯЎСКАГА



РАНІШНІ ЗВАНОК УЛАДЗІМІРА АРЛОВА 20 СТУДЗЕНЯ ПРЫНЁС МНЕ СКРУШНУЮ НАВІНУ: ПАМЁР МІХАСЬ ЧАРНЯЎСКІ. ВЕСТКА АБ СМЕРЦІ БЛІЗКАГА ЧАЛАВЕКА ЗАЎСЁДЫ АГЛУШАЕ. У ЯЕ ЦЯЖКА ПАВЕРЫЦЬ. ЦЯЖКА САБРАЦЦА З ДУМКАМІ. ЦЯЖКА НЕШТА ВЫМАВІЦЬ. А СКАЗАЦЬ АБАВЯЗКОВА ТРЭБА. І СКАЗАЦЬ УСЛЫХ. ДЛЯ ЎСІХ. НЕ ТОЛЬКІ ПА ПРАФЕСІЙНАМУ АБАВЯЗКУ ЖУРНАЛІСТА І РЭДАКТАРА.

З той, галоўнае, прычыны, што Міхась Чарняўскі — асоба, чые словы і справы ўжо аказалі ўплыў на развіццё беларускага грамадства, але не страцілі сваёй дзейснай актуальнасці. Гэтай справе ён прысвяціў усё сваё жыццё, аднак яна, на жаль, яшчэ не атрымала свайго лагічнага завяршэння.

Вучоны — гісторык, археолаг. Пісьменнік. Палітык. Грамадскі і культурны дзеяч. Гэта ўсё пра яго. І ўсе гэтыя азначэнні лёгка абагульняюцца пад адно: Міхась Чарняўскі — выбітны асветнік і дзеяч Беларускага Адраджэння канца ХХ — пачатку ХХІ стагоддзя. Адзін з яго архітэктараў, яго творцаў.

Свядома абраны шлях. Не скажу, што са школы, бо не ведаю, але дакладна — са студэнцкіх часоў, пра што чуў ад яго. «Нічога сур'ёзнага, — з уласцівай яму тонкай ironіяй, — жартаваў Міхась. — Так, асцярожна прашчупвалі адзін аднаго на інтарэс да беларушчыны, на жаданне размаўляць на беларускай мове. Своеасаблівая нефармальная кампанія, гурток, клуб па інтарэсах. Нацыянальная самаадукацыя. Праўда, падпольная. Бо добра ўсведамлялі, чым пагражае абвінавачванне ў нацыяналізме»...

Я толькі пачынаў свой шлях у навуку ў аспірантуры Інстытута гісторыі Акадэміі навук, а Міхась ужо быў старшым навуковым супрацоўнікам. І вось — сход працоўнага калектыву: інфармацыя кіраўніцтва аб выкрыцці групы нацыяналістаў. Што ўразіла — патрабавання «крыві» Міхася Чарняўскага ў іх выступах не было. Як не было ў рэзалюцыі і патрабавання аб яго звальненні. Думаю, не па прычыне разумення нацыянальных прыярытэтаў, ад якога тагачасны склад навукоўцаў быў яшчэ вельмі далёка, а з павагі да Міхася Чарняўскага. Яго звольнілі на год па рашэнні бюро ЦК Кампартыі Беларусі на чале з Машэравым. У чымсьці таксама вымушаным — пад ціскам з Масквы.

Ужо пазней, калі мы шчыльна супрацоўнічалі з Міхасём на палітычным попрышчы, а менавіта, аднаўлення беларускай сацыял-дэмакратыі, я меў магчымасць пераканацца, як яго паважалі людзі самых розных поглядаў і пазіцый. І аднадумцы, і праціўнікі. Такім шчырым і добразычлівым ён быў у адносінах з людзьмі. Ён меў бясспрэчны маральны і інтэлектуальны аўтарытэт — для ўсіх, з кім зводзіў яго лёс, на ўсіх этапах жыцця і дзейнасці. Не выпадкова менавіта яму Ларыса Геніюш даверыла на захаванне сваю «Споведзь», якая была апублікавана ўжо ў час палітычных перамен у Беларусі.

Археалогія была пакліканнем Міхася Чарняўскага. Але адначасова і інструментам у справе беларускага Адраджэння. Прычым, ці не адзіна легальным у савецкіх умовах. Праз навуковыя і папулярныя працы, мастацкія творы ён адкрываў Беларусь старажытную. А калі сталася магчымым, першы адкрыў нам і тэму антысавецкага супраціву. «Як пошуг маланкі» — кніжка пра Расціслава Лапіцкага абрынула савецкі міф аб палітычнай еднасці савецкага рэжыму.

З навуковай сцяжыны Міхась ніколі не сыходзіў, нават ужо хваРэючы, выбіраўся ў археалагічныя экспедыцыі. Планаваў іх і на гэтае лета. Але калі адчуваў мэтазгоднасць, якую вызначаў выключна па крытэру магчымай карысці беларускай справе, не гойдаючыся з галавой акунаўся ў практычную палітыку. Быў у ліку сябраў аргкамітэта Беларускага народнага фронту. І ён жа першы, падчас працы ўстаноўчага з'езду БНФ у Вільні (24 чэрвеня 1989 г.) выказаў ідэю аб неабходнасці адраджэння сацыял-дэмакратыі ў Беларусі. Прымаў актыўны ўдзел у стварэнні Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады, потым Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі. Паклаў шмат высілкаў і нерваў на аб'яднанне сацыял-дэмакратыі. На жаль, пакуль не атрымалася...

Здабыткі Міхася Чарняўскага застаюцца ў практычным арсенале беларускага дэмакратычнага адраджэнскага руху.

**Аляксей Кароль, "Новы час". Фота Арцёма Лявы.**

ПРАБЛЕМЫ ЭКАНОМІКІ

## НА «ПАГАЛОЎНУЮ» МАДЭРНІЗАЦЫЮ Ў БЕЛАРУСІ НЯМА ГРОШАЎ

УРАД ДАРУЧЫЎ МІНФІНУ І МІНЭКАНОМІКІ ЗНАЙСЦІ ГРОШЫ НА МАДЭРНІЗАЦЫЮ БЕЛАРУСКІХ ПРАДПРЫЕМСТВАЎ. У МАТЭРЫЯЛАХ САЎМІНА РАНЕЙ ПАКАЗВАЛАСЯ, ШТО Ў 2013 ГОДЗЕ МАДЭРНІЗАЦЫЯЙ БУДЗЕ АХОПЛЕНА БОЛЬШ ЗА ТЫСЯЧУ ДЗЯРЖПРАДПРЫЕМСТВАЎ. ДЛЯ РЭАЛІЗАЦЫІ ГЭТАК ГЛАБАЛЬНАЙ ЗАДАЧЫ СПАТРЭБІЦЦА НЕ АДЗІН МІЛЬЯРД ДАЛЯРАЎ. ДЗЕ ГЭТЫЯ ГРОШЫ ВОЗЬМЕ ДЗЯРЖАВА?

### Мільярды даляраў, якіх не відаць

Паводле заяў ўрада, «найважнейшым прыярытэтам» ў 2013 годзе з'яўляецца мадэрнізацыя прадпрыемстваў. Падчас селектарнай нарады, якую правёў Міхаіл Мясніковіч ў першыя дні студзеня, было заяўлена, што ў гэтым годзе неабходна будзе закупіць абсталяванне, каб паскорыць тэмпы абнаўлення вытворчых магутнасцяў краіны.

Дакладную суму, якая спатрэбіцца для вырашэння гэтак амбіцыйнай задачы, яшчэ трэба высветліць. Аднак сумнявацца ў тым, што сума гэтая будзе з многімі нулямі на канцы, не прыходзіцца. Дарэчы, мадэрнізацыя толькі мінпрамаўскіх прадпрыемстваў ацэньваецца ў 3,1 млрд. даляраў.

Галоўнае пытанне - дзе знайсці столькі грошай на такую маштабную мадэрнізацыю дзяржпрадпрыемстваў. Неэмісійных сродкаў, за кошт якіх можна было б прафінансаваць гэты праект, пакуль не відаць. Уласных сродкаў прадпрыемствам відавочна не хопіць. Паводле звестак Белстата, больш за палову прадпрыемстваў маюць нізкі ўзровень рэнтабельнасці (да 10%).

«У бюджэце неабходных сум на мадэрнізацыю не закладзена, крэдытныя рэсурсы па існуючым стаўках для прадпрыемстваў недаступныя. Зыходзячы з рэйтынгаў краіны і палітычных рызык, магчымасці прыцягнуць крэдыты ў рамках замежных крэдытных ліній таксама абмежаваныя », - кажа эксперт Naviny.by ў фінансавых колах.

У прагнозных дакументах на 2012 год закладвалася, што за кошт прыватызацыі краіна атрымае 2,5 млрд. даляраў. Па факце атрымалася прыцягнуць ад продажу акцый дзяржпрадпрыемстваў толькі 1,8 млн. даляраў. Таму разлічваць, што за кошт прыватызацыі атрымаецца прыцягнуць грошы на мадэрнізацыю, таксама не даводзіцца.

Тым не менш, ад планаў па мадэрнізацыі дзяржава наўрад ці адмовіцца, паколькі выкананне гэтых планаў прама ўвязана з выкананнем шэрагу дырэктыўных паказчыкаў. Як адзначаў восенню Міхаіл Мясніковіч, «калі мы не забяспечым пагалоўную мадэрнізацыю прадпрыемстваў», то «выходзіць на паказчыкі 2013 года і пяцігодкі будзе вельмі складана».

**Дзмітрый ЗАЯЦ, "Белапан".**

НАША ЎЛАДА

## «ДЗЯРЖАЎНЫ» РОЗУМ

ДЗЕ ЯШЧЭ, У ЯКОЙ КРАІНЕ НА ВЫШЭЙШАЙ ДЗЯРЖАЎНАЙ ПАСАДЗЕ МОЖНА ПАБАЧЫЦЬ СТРАТЭГА З ТАКІМ УЗРОЎНЕМ ДЗЯРЖАЎНАГА МЫСЛЕННЯ?

"Вы кажаце, што нешта трэба рабіць з чэргамі ў паліклініках... Давайце ўвядзём плату ў памеры 5 тысяч рублёў за наведванне паліклінікі".

Трэба знайсці грошы на фінансаванне вышэйшай адукацыі? Ён, гэты дзяржаўны стратэг, таксама ведае, як вырашыць складанае пытанне. "Давайце з вамі дамовімся на наступны навучальны год: па тых спецыяльнасцях, дзе назіраецца перавытворчасць кадраў, дзе моладзь гэтая акалічнасць мала турбуе, праплачвайце сабекошт падрыхтоўкі, дадавайце працэнты прыбытку, якія самі палічыце вернымі, і называйце суму. Мы ўсе жывём ва ўмовах рынку. І калі малады чалавек, нягледзячы ні на што, хоча вучыцца менавіта на гэтай спецыяльнасці, то няхай будзе гатовы выкласці названую суму". ...

Толькі Аляксандр Лукашэнка заікнуўся — стратэг адразу даў адказ, як вырашыць даўнюю і балючую праблему павышэння заробкаў выхавацелям дзіцячых садкоў. "Я прапаную разгледзець пытанне аб тым, каб бацькі плацілі нейкі працэнт ад кошту ўтрымання іх дзяцей у пэўным садку... Вядома, мы б хацелі, каб бацькі аплачвалі хоць бы поўны кошт харчавання сваіх дзяцей. Гэта будзе вырашацца паэтапна, але ў бліжэйшы час трэба выходзіць хаця б на 60—70 працэнтаў аплаты харчавання. Гэтыя грошы мы накіруем на павышэнне зарплаты людзей, якія займаюцца дзецьмі. У выніку гэта будзе садзейнічаць павышэнню якасці адукацыйнага працэсу".

Усе вышэйпрыведзеныя цытаты належаць аднаму чалавеку. І гэты чалавек — намеснік старшыні ўрада, які адказвае за сацыяльны блок, Анатоль Афанасьевіч Тозік. Гісторык па адукацыі, які ўдасканальваў свае веды на вышэйшых курсах КДБ, проста фантануе рэцэптамі "выпраўлення сітуацыі" і "паляпшэння жыцця людзей". Але ад усіх хвароб у яго рэцэпт адзін: як мага больш садраць з простага чалавека....

Ці хоць раз спадар Тозік выступіў з абурэннем тымі мізэрнымі заробкамі, з якіх многія людзі не тое што заняткі дзіцяці ў нейкім гуртку не могуць аплаціць — жыць не маюць за што? Лайдакі, якія не хочуць працаваць, — гэта адна праблема. Але ж галоўная бяда нашай краіны, што нават многія з тых людзей, якія працуюць няблага, не могуць выбіцца на лепшае жыццё. Каб не сказалі, што я ачарняю рэчаіснасць, спашлюся на нядаўні матэрыял "Гомельскай праўды" (афіцыйнай газеты Гомельскага аблвыканкама), дзе апісваўся рэйд мабільнай групы па прадпрыемствах Добрушскага раёна."Колькі зарабляеце ў месяц?" — запыталіся начальнікі на адным з аб'ектаў. І пачулі ў адказ: "За 320 рабочых гадзін — 1 мільён 300 тысяч рублёў".

Вы ўяўляеце, што такое 320 рабочых гадзін? Гэта болей чым па 10 гадзін штодзённа, без выхадных. І што чалавек мае?.. Пры такіх заробках бацькоў і дзіцячыя садкі, і гурткі, і спартыўныя секцыі, і экскурсіі для дзяцей увогуле павінны быць БЯСПЛАТНЫМІ, каб не выраслі дзеткі маральнымі і культурнымі калекамі. Бо з такіх грошай добрую кніжку не купіш, не тое што не заплаціш за нейкія дадатковыя заняткі.

Але спадар Тозік робіць выгляд, што няма ў краіне праблемы жабрацкіх заробкаў. Ну проста лопаюцца ў людзей ад грошай кішэні і кашалькі, таму Анатоль Афанасьевіч заладзіў адну песню: "Плаціце, плаціце, плаціце..."

А калі няма чым плаціць? У каго ёсць грошы, у тых дзецi даўно ходзяць у камерцыйныя садкі, спецыяльныя школы і прыватныя медыцынскія цэнтры. Але ці задумаўся віцэ-прэм'ер, што ў нашай краіне трэба неяк выжываць і тым, у каго, як ні стараюцца, такіх даходаў няма?

Тым больш што людзі ўжо заплацілі! І за бясплатную медыцыну, і за бясплатную адукацыю. Заплацілі сваімі падаткамі. Вось толькі не туды пайшлі іх грошы. Так, агульнадзяржаўныя расходы (гэта ўтрыманне прэзідэнта, урада, судоў, пракуратур, міліцыі, КДБ і т.п.) у 2006 годзе складалі 32,84% дзяржаўнага бюджэту, а ў мінулым годзе — ужо 52,65%. Затое выдаткі на сацыяльную палітыку ў тым жа 2006 годзе былі ў межах 9,33% дзяржбюджэту, а ў 2012-м — толькі 6,83%. Але не абураецца гэтым віцэ-прэм'ер Тозік, не бачыць хібаў у тым, што чыноўніцтва і сілавікі дзеляць агульныя народныя грошы на сваю карысць. Наадварот, ён настойліва стаіць на тым, што для вырашэння большасці праблем трэба садраць грошы з бедных. Разлік тут ёсць, і ён просты: грошай у небарак зусім не шмат, затое бедных — процьма.

Але самае дзіўнае, што за такі "дзяржаўны розум" спадара Тозіка пасады не пазбавяць, хаця ў любой іншай краіне так бы і было. А ў нас наадварот. Можа, яшчэ Героя Беларусі дадуць...

**Святлана КАЛІНКІНА, "Народная Воля".**

НАША ДАТА

# БЕЛАРУСКАЕ СТУДЭНЦКАЕ СВЯТА

НАЦЫЯНАЛЬНЫМ СТУДЭНЦКІМ СВЯТАМ МАЕ БЫЦЬ ДЗЕНЬ СТВАРЭННЯ ВІЛЕНСКАГА ЎНІВЕРСІТЭТА. ТАЦЯНІН ДЗЕНЬ НЯ МАЕ НІЯКАГА ДАЧЫНЕНЬНЯ ДА СЬВЯТАЎ БЕЛАРУСКАГА СТУДЭНЦТВА, ПЕРАКАНАНЫ ГІСТОРЫК І ГРАМАДЗКІ ДЗЕЯЧ АЛЕГ ТРУСАЎ.

Гэтым днём павінна лічыцца 30 кастрычніка 1579 году, калі рымскі Папа Грыгоры XIII (той самы, дарэчы, які ўвёў у Эўропе новы стыль летазьлічэньня) сваёй булаю зацьвердзіў прывілей караля Стэфана Баторыя аб утварэнні Віленскай акадэміі.

"Калі расейская імпэратрыца Лізавета Пятроўна падпісала амаль 260 гадоў таму ў дзень вялікамучаніцы Тацяны загад аб стварэньні Маскоўскага ўнівэрсытэту, Беларусь жыла ў сваёй незалежнай краіне. І Тацянін дзень ня мае ніякага дачыненьня да сьвятаў беларускага студэнцтва,

расказаў вядомы гісторык і грамадзкі дзеяч Алег Трусаў.

Указ Лізаветы Пятроўны пра стварэньне Маскоўскага ўнівэрсытэту датуецца 25 студзеня 1755 году, пасля чаго беларускія землі яшчэ паўстагодзьдзя заставаліся незалежнымі ад Расейскае імпэрыі. Таму сьвяткаваньне гэтак званага Тацянінага дня ў сёньняшняй Беларусі ёсьць вынікам сьвядомага навязваньня нашай моладзі чужых традыцыяў, гаворыць Алег Трусаў: «Калі людзі ня ведаюць гісторыі, то тады яны трапляюць у сьмешныя сытуацыі. Калі ствараўся Маскоўскі ўнівэрсытэт, Беларусь не ўваходзіла ў Расейскую імпэрыю. Таму ніякага дачыненьня Тацянін дзень да Беларусі ня мае ні зь якога боку».

У беларускіх студэнтаў за сваё нацыянальнае студэнцкае сьвята мае быць дзень стварэньня Віленскага ўнівэрсытэту, які да Лізавецінскага ўказу налічваў ужо амаль 200-гадовую гісторыю і быў найстарэйшым ва ўсёй Усходняй Эўропе.

Гэта, дарэчы, прызнавалася нават за савецкай уладай, гаворыць Алег Трусаў: «Яшчэ калі існаваў Савецкі Саюз, усе ведалі, што самы старажытны ўнівэрсытэт на тэрыторыі СССР — гэта Віленскі. І літоўцы ў свой час дабіліся, што 400-гадовы юбілей Віленскага ўнівэрсытэту сьвяткаваўся ва ўсесаюзным маштабе. Была нават выдадзеная паштовая марка Савецкага Саюзу з выяваю галоўнага корпусу ўнівэрсытэту і датаю — 400 гадоў».

Віленскі ўнівэрсытэт створаны паводле прывілею караля Стэфана Баторыя, выдадзенага ў 1578 годзе. Але афіцыйнаю датаю ягонага адкрыцьця лічыцца 30 кастрычніка 1579 году, калі рымскі Папа Грыгоры XIII (той самы, дарэчы, які ўвёў у Эўропе новы стыль летазьлічэньня) сваёй булаю зацьвердзіў прывілей караля Стэфана Баторыя. На двух факультэтах Віленскага ўнівэрсытэту выкладаліся ўсе на той час прыродазнаўчыя і гуманітарныя дысцыпліны. Абавязковымі для ўсіх студэнтаў былі клясычныя мовы — грэцкая, лацінская і габрэйская; новыя — нямецкая і француская, і мова дзяржаўнага справаводзтва ВКЛ — беларуская.

**"Радыё Свабода".**

НАША ГРАМАДСТВА

# НАВАПАЛОЦКІ КАНТРАЛЁР, ЯКУЮ ЦЯГАЛІ ЗА ВАЛАСЫ, ЗМЯНІЛА ПРАЦУ

ПАСЛЯ ЗДАРЭННЯ Ў НАВАПАЛАЦКІМ АЎТОБУСЕ КАНТРАЛЁР ЛЮДМІЛА ШАХЛІНА ЗМЯНІЛА ПРАЦУ. А АБВІНАВАЧАНЫ, ЯКІ НАНЁС ЁЙ ТРАЎМЫ, ДАГЭТУЛЬ НЕ ПАПАРАСІЎ ПРАБАЧЭННЯ.

"Людміла Іосіфаўна напісала заяву. Пасля таго інцыдэнту яна працаваць на былым месцы чыста маральна не змагла, — распавядаюць у ідэалагічным сектары аўтапарка №6 г. Наваполацка. — Цяпер яна працуе ў нас, але на іншай пасадзе".

Відэа скандальнага інцыдэнту ў наваполацкім аўтобусе разышлося па інтэрнэце напрыканцы лістапада. Людміла Шахліна (так гучыць яе сапраўднае прозвішча) даволі жорстка спрабавала спагнаць штраф з сям'і — мужа, жонкі і дваіх малых дзяцей. За сям'ю заступіўся 22-гадовы грамадзянін, які схапіў кантралёра за валасы і нахіліў, траўмаваўшы той шыю.

Відэаролік здарэння выклікаў спрэчкі: ці законна дзейнічала кантралёр і хто гэты хлопец — хуліган ці Робін Гуд.

"Ведаем, што была вочная стаўка, якая ні да чаго не прывяла, — працягваюць распавядаць у ідэалагічным сектары аўтапарка. — Выбачэнні не былі атрыманы. Грамадзнін Мікалай Б. не збіраецца прасіць прабачэння".

"Проста спрабуюць закрыць гэту справу за недаказанасцю нейкай. Вырашаецца, ці мы пойдзем на нейкае прымірэнне, ці справу накіруюць у суд", — выказваецца Людміла Іосіфаўна.

Верагодна, ужо найбліжэйшым часам мы даведаемся пра развязку скандальнага здарэння ў наваполацкім аўтобусе.

У сапраўдны час следства працягваецца. Тэрмін заканчваецца ў панядзелак 28-га студзеня. Пра прынятае працэсуальнае рашэнне мы паведамім дадаткова.

**Яўген Валошын, "Еўрарадыё".**

САЦЫЯЛЬНАЕ ПЫТАННЕ

# ПЕНСІЙНАЯ РЭФОРМА. ДЗЯРЖАВЕ ПАРА ГУЛЯЦЬ НА АПЯРЭДЖАННЕ

ПАВОДЛЕ ЗВЕСТАК БЕЛСТАТА, КОЛЬКАСЦЬ ПЕНСІЯНЕРАЎ У КРАІНЕ ДАСЯГНУЛА 2,5 МІЛЬЁНА. СООТНОШЕНИЕ КОЛЬКАСЦІ ПРАЦУЮЧЫХ ДА ПЕНСІЯНЕРАЎ ЗМЕНШЫЛАСЯ ДА 1,5. БЕЛАРУСКІМ УЛАДАМ САМЫ ЧАС СУР'ЁЗНА ЗАДУМАЦЦА ПРА ЗМЕНЫ Ў ПЕНСІЙНАЙ СІСТЭМЕ.

**Але ці пойдзе кіраўніцтва краіны на пенсійную рэформу?**

Пра тое, што пенсійнай сістэме патрэбна рэформа, незалежныя эксперты казалі даўно. Ды і самі ўлады, хутчэй за ўсё, разумеюць гэта, але замахнуцца на сьвятое для народа ў шкоду сабе не хочуць. Аднак сітуацыя ў гэтай сферы складваецца так, што ў бліжэйшы час кіраўніцтву краіны прыйдзецца задумацца аб непапулярных крокаў.

Нягледзячы на тое, што ў 2012 годзе Фонд сацыяльнай абароны насельніцтва (ФСАН) атрымалася сфармаваць з прафіцытам, ужо да 2014 году, па прагнозах Сусветнага банка, ФСАН можа сутыкнуцца з дэфіцытам.

У кіраўніцтва краіны ёсць некалькі варыянтаў гульні на апярэджанне. Кожны з іх утрымлівае меры, якія будуць вельмі хваравітыя для ўладаў, так як прадугледжваюць шэраг эканамічных і палітычных рызык.

**Павысіць пенсійны ўзрост - апошняе, на што пойдзе кіраўніцтва краіны**

Этап, які праходзілі практычна ўсе еўрапейскія краіны - павышэнне пенсійнага ўзросту. Гэтая мера выключна нежаданая для ўладаў, бо, па сутнасці, гэта ўдар у самае сэрца беларускай ідэалогіі, разбурэнне патэрналісцкага міфа. У рыторыцы прэзідэнта і іншых службовых асоб не раз гучаў тэзіс аб тым, што ў адрозненне ад нашых заходніх і ўсходніх суседзяў Беларусь - сацыяльная дзяржава для народа, і таму ўлады не пойдуць на такі крок.

Яшчэ ў красавіка 2012 года Аляксандр Лукашэнка загаварыў пра неабходнасць рэфармавання сістэмы пенсійнага забеспячэння, але без павелічэння пенсійнага ўзросту: «Удасканальваючы пенсійную сістэму, мы адкідаем варыянт, па якім пайшлі Еўропа, Украіна, іншыя краіны - павышэнне пенсійнага ўзросту».

І на самай справе, падвышаючы пенсійны ўзрост, улады будуць секчы сук, на якім сядзяць: у электарацe Лукашэнка шмат людзей перадпенсійнага ўзросту і пенсіянераў. Павелічэнне ўзросту выхаду на пенсію напэўна негатыўна адаб'ецца на і без таго не занадта высокім сёння рэйтынгу прэзідэнта.

Такім чынам, на павышэнне пенсійнага ўзросту ўлады ў агляднай перспектыве (па крайняй меры, да прэзідэнцкіх выбараў 2015 года) наўрад ці пойдуць. Як і іншыя наспелыя праблемы, гэтую ўлады вырашылі адсунуць на потым.

Яшчэ адным малаверагодным варыянтам скараціць магчымы дэфіцыт ФСАН з'яўляецца памяншэнне памеру пенсіі. Такі ход падзей, можа, і не выкліча сацыяльны выбух, але масавая незадаволенасць будзе забяспечана. Пенсіі ў Беларусі і так вельмі сціплыя.

Так, сярэдні памер пенсіі па ўзросце ў 2012 годзе склаў 182,6 даляра. Плануецца, што ў 2013 годзе паказчык узрасце да 218,1 даляра ў эквіваленце. Аднак пакуль абяцанае на люты павышэнне пенсіі адменена - на гэта няма грошай.

Акрамя таго, улічваючы сярэднюю працягласць жыцця ў краіне (мужчыны - 66 гадоў, жанчыны - 77), можна канстатаваць, што многія беларусы не паспяваюць ў поўнай меры скарыстацца і гэтымі сродкамі.

**Улады ахвяруюць эфектыўнасцю, каб залатаць дзіркі**

Не з'яўляецца магчымым рашэннем праблемы і павышэнне падатковых адлічэнняў у ФСАН. У іншай сітуацыі ўлады, можа быць, і скарысталіся б такім спосабам, але не цяпер, ды і памерам адлічэнняў расці няма куды.

Цяпер яны складаюць 35% ад фонду заработнай платы, прычым асноўны цяжар - 34% - ляжыць на наймальніках. У выпадку ж калі наймальнік з'яўляецца і работнікам і працадаўцам, памер падаходнага падатку і выплат у ФСАН можа перавысіць 50% ад заробку.

Такі ўзровень адлічэнняў працадаўцаў з'яўляецца адным з самых высокіх у свеце. Акрамя таго, ён штурхае да ўтойванню рэальнага памеру даходу. Як правіла, наймальнікі зніжаюць афіцыйныя лічбы, выкарыстоўваюць схему зарплаты ў канверце. Такое становішча рэчаў паказвае неэфектыўнасць сённяшняй сістэмы сацыяльнага забеспячэння ў цэлым.

Хутчэй за ўсё, для падтрымання ўзроўню пенсійнага забеспячэння без павышэння ўзросту выхаду на пенсію ўлады паспрабуюць абысціся малой крывёю і пойдуць на датаванне ФСАН, напрыклад, за кошт пазабюджэтных крыніц.

Для павышэння эфектыўнасці пенсійнай сістэме патрэбныя рэформы. Нясмелы крок улады зрабілі, даўшы магчымасць дыферэнцыраванага павышэння пенсіі за кошт больш позняга выхаду на яе. Такія меры прадугледжвае ўказ прэзідэнта № 136 ад 18 сакавіку 2012 «Аб мерах па ўдасканаленні пенсійнага забеспячэння грамадзян».

Аднак гэтага недастаткова. Неабходна развіваць сістэму пенсійнага страхавання, пераходзіць да назапашвальнай сістэмы пенсійнага забеспячэння і пераразмеркавання цяжару выплат у ФСАН паміж наймальнікамі і працаўніком.

**Мікіта Бяляеў, naviny.by.**

НАШ ГЕРОЙ

# ГАЛОЎНЫ ГЕРОЙ БЕЛАРУСКАГА СЭРЦА

КАСТУСЬ КАЛІНОЎСКІ — ПЕРШЫ ЗАСТУПНІК ЗА БЕЛАРУСКАЕ СЛОВА, ВЕРУ І НЕЗАЛЕЖНАСЬЦЬ НАШАГА КРАЮ — СТАЎ НАЦЫЯНАЛЬНЫМ ГЕРОЕМ НЕ АД ТАГО, ШТО ТАК ПАСТАНАВІЛІ РАДА БНР АБО ЦК КПБ. ЯГОНЫ ВОБРАЗ ВЯЛІКАГА СПРАВЯДЛІВАГА ПАКЛАЎСЯ НА БЕЛАРУСКУЮ ДУШУ, КУДЫ Б СКІРАВАНАЮ ЯНА НІ БЫЛА. ЯГО ПРЫНЯЛІ І КАМУНІСТЫ І НАЦЫЯНАЛІСТЫ І ПРОСТА БЕЛАРУСКІЯ ЛЮДЗІ.

У мінулую вайну савецкі партызанскі атрад імя Каліноўскага мог спаліць вясковую школку толькі за тое, што настаўнік выкладае дзеткам зьмест «Мужыцкае праўды»: «Бо я табе з-пад шыбеніцы кажу, народзе, што тады толькі зажывеш шчасьліва, калі над табой маскаля ўжо ня будзе»…

Мноства вядомых вершаў, раманы і нават пачатак беларускага кінэматографу — пра яго.

Супраць яго, прызнанага беларусамі ўсіх адценьняў, веравызнаньняў і палітычных поглядаў, можа быць толькі небеларус, толькі нехта з-за межаў нацыі, чужынец.

Як той масквіч, што фундаваў у Менску эрпэцэшную царкву на вуліцы Каліноўскага і назву вуліцы патрабаваў зьмяніць. Улады знайшлі кампраміс (не замахнуліся на імя Справядлівага) — перайменавалі толькі частку вуліцы з гэтай самай царквою.

Каліноўскага нельга не любіць, калі ты беларус. Гэтае імя мацнейшае за кожны іншы знак нашае тоеснасьці. У Беларусі ўсе ад вясковай бабулькі да экзальтаванага сталічнага школьніка, ад бамжа да пасьпяховага бізнэсоўца, ад рэжымнага чыноўніка да дысыдэнта скажуць табе, што Каліноўскі — наш.

Што хаваецца за гэтым фэноменам? Думаю, глыбока схаваная ў душы ўзаемнасьць.

Выпускнік Пецярбурскага ўнівэрсытэту вяртаецца на радзіму і становіцца лідэрам «польскага» паўстаньня ў сваім краі. Выдае першую беларускамоўную газэту. Шукае паразуменьня з простым народам. Ані каліва няшчырасьці або «прагматызму». І — што б ні гігікалі цяперашнія афіцыёзьнікі — ідзе на эшафот.

Як Хрыстос.

Чысты, беззаганны, сымбаль справядлівасьці. Тут паралель робіцца абсалютнай. Пілат паслаў Хрыста на самую ганебную сьмерць — расьпяцьце на крыжы. Так каралі толькі бандытаў. Расейскі губэрнатар Мураўёў паўтарыў тое самае з Каліноўскім.

Замест расстрэлу, які «належаў» ваеначальніку ўсяе Беларусі і Літвы, ён у апошні момант загадаў Каліноўскага павесіць. Як бандыта. І як Хрыстос аб'ядваў і аб'ядноўвае розных людзей у супольнасьць Людзі, так Каліноўскі аб'ядноўвае супольнасьць Беларусы.

«Дэгераізаваць» яго для нашага народу — тое самае, што для чалавецтва «дэгераізаваць» Хрыста. А гэта значыла б зьнішчыць у нашых дачыненьнях паняткі справядлівасьці, шчырасьці і сумленьня, што ўвасобленыя найперш у постацях Хрыста і Каліноўскага, і гадаваць нашчадкаў, не абцяжараных гэтымі якасьцямі.

У адрозьненьне ад сымболікі і мовы, якія на вуліцах і ў эфірах яшчэ можна чымсьці замясьціць, на месцы сплюжанага нацыянальнага героя ў беларускім сэрцы застанецца пустата.

**Сяргей Дубавец, Радыё Свабода.**

**Заснавальнік і рэдактар:** Гаравы Леанід Антонавіч

**Адрас рэдакцыі:** 211573, г. Гарадок, вул. Гагарына, д.30Б, кв.16. E-mail: 250318@list.ru
Тэл. 8-02139-4-42-52, маб. + 375(29)6723842 (V),
Газета выдаецца з сакавіка 1998 г.

**Падпісана да друку 30.01.2013 у 18.10.**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца на абсталяванні аднадумцаў.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.